**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by


# Вольнае Глыбокае


24 (532) 17 чэрвеня 2010 года

Кошт **свабодны**





Пешая праваслаўная пілігрымка Глыбокае-Полацк, першая пасля 1913 г.

Ïàñòàâ¢ñê³ ðà¸í

# Íàä ãîðàäàì – ôðàíöóçñê³ÿ âåðòàë¸òû

■ Кастусь Александровіч

**Сёлетняе прафесійнае свята – Дзень пагранічніка стала асабліва памятным для асабовага складу асобнага авіяцыйнага атрада пагранвойскаў Беларусі, які дыслацыруецца паблізу Пастаў.**

Усе ваеннаслужачыя гэтай часці пастроіліся на краю ўзлётна-пасадачнай паласы, каб прывітаць новае "папаўненне" – яшчэ два серабрыстыя баявыя верталёты вядомай французскай фірмы "Eurokopter". Напярэдадні ў Францыі прайшлі неабходную падрыхтоўку лётчыкі, штурманы і спецыялісты, якую будуць эксплуатаваць гэту сучасную манеўраную тэхніку. Па добрай традыцыі пасля прызямлення на аэрадроме асвяціў вінтакрылыя машыны настаяцель мясцовай царквы св. М. Цудатворцы іерэй Валерый Пашкевіч. Прыемную місію выканаў на ўрачыстацыях камандзір часці, ураджэнец Глыбоцкага раёна палкоўнік Валерый Гарачка, які аб'явіў загад аб заахвочваннях лепшых ваеннаслужачых. Цяпер у штаце авіяатрада ўжо тры новенькія французскія верталёты, бягучай восенню прыляцяць сюды яшчэ адзін. Атрымалі пасля капрамонту і расійскі верталёт МІ-8. На сваёй тэхніцы пастаўскія авіятары-пагранічнікі лятаюць не толькі па перыметру граніц гарнізоны, яны выконваюць розныя заданні паўсюдна па краіне па ахове дзяржаўных граніц Беларусі.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Í³ äíÿ áåç ãóëüíÿ¢

■ Станіслаў Раманчук

**Жыхароў сталіцы і буйнейшых гарадоў краіны не здзівіць цяпер сучаснымі спартыўнымі збудаваннямі.**

У пачатку лета да іх далучыўся ўслед за Чашнікамі і райцэнтр Мёры, дзе ў адным з буйных мікрараёнаў з'явілася спортпляцоўка для міні-футбола са штучным газонам апошняга пакалення. Падчас адзінага тыдня масавага футбола ў Беларусі ў назначаны дзень урачыстага адкрыцця не паспелі, але значнасць падзеі ад гэтага не зменшылася. Гулкія ўдары па мячу і вясёлыя крыкі хлопчыкаў цяпер чуваць тут штодзень да позняга вечара. На гэтым шматфункцыянальным полі займацца футболам стала магчыма практычна круглы год, ачышчаючы зімой поле ад снегу. Апошнім часам у Мёрах сур'ёзна заняліся раз-віццём самай папулярнай гульні ў свеце. Дзякуючы прадпрымальніку Андрэю Чарняўскаму стварылі дарослую баяздольную, моцную футбольную каманду ўзроўню 2-й лігі чэмпіянату Беларусі і летась упэўнена выйгралі першынство Віцебскай лігі. Толькі недахоп фінансавых сродкаў пакуль перашкаджае ФК "Мёры" заявіцца да ўдзелу ў нацыянальным футбольным першынстве. Але тут думаюць пра перспектыву, сюды прыехаў па запрашэнню з Глыбокага на працу футбольным трэнерам Вячаслаў Богуш. За свой футбольны клуб прыходзяць "пахварэць" усё больш гледачоў, а ў горадзе разлічваюць, што неўзабаве вырастуць тут і свае футбольныя таленты.

# Ó Àç³íà áóäóöü çäàáûâàöü ï³òíóþ âàäó

Шэсць участкаў на тэрыторыі Віцебскай вобласці прызнаны перспектыўнымі для здабычы і прамысловага разлівання прэсных падземных вод.

Як паведамляе БЕЛТА са спасылкай на Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у іх ліку - вёска Азіна Полацкага раёна.

Паводле даследаванняў навукоўцаў, запасы і склад вод дазваляюць ствараць прадпрыемствы па разліванні пітной вады таксама ў Докшыцах, Бягомлі, вёсцы Велеўшчына (Лёпельскі раён), мястэчках Расоны і Ушачы.

Цяпер на тэрыторыі вобласці 4 прадпрыемствы і арганізацыі займаюцца здабычай і буціліраваннем пітной вады, яшчэ 9 - здабычай і разліваннем мінеральнай вады. Па дадзеных дзяржаўнага воднага кадастра, на тэрыторыі Віцебскай вобласці натуральныя рэсурсы падземных вод складаюць 3,36 куб.км у год, агульныя выведаныя эксплуатацыйныя запасы падземных вод - 0,34 куб.км у год.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Íÿìà òàãî, øòî ðàíåé áûëî

■ Чэслаў Якубовіч

**Нягледзячы на ўсе намаганні па адраджэнню вёскі, у адным з найпрыгажэйшых у краіне Браслаўскім раёне цяпер засталося толькі 13 гаспадарак.**

Некалі ў глыбінцы азёрнага краю, на адлегласці 40 км ад райцэнтра існаваў і калгас імя Пушкіна з цэнтрам у вёсцы Мілашкі пасярод лясных масіваў на беразе возера. А цяпер тут жыве толькі 9 працаздольных грамадзян і двое школьнікаў. Не стала базавай школы, вясковага клуба з бібліятэкай і медпункта. Праўда, будынак ФАПа захаваўся, але няма каму ў ім працаваць. Толькі яшчэ сельмаг радуе жменьку з застаўшыхся жыць 46 чалавек, пераважна адных старых. Яшчэ летам Мілашкі ажываюць, бо ўжо 4 хаты купілі пад дачы мінчане, на продаж могуць пайсці і таксама некалькі апусцеўшых дамоў. Адсюль цяпер да цэнтра сельсавета трэба дабірацца 13 км, а да цэнтральнай сядзібы існуючага СВК "Новая Гвардыя" адлегласць, як да Браслава. Няма ніякіх перспектыў, ціха дажывае і гэта вёска свой век. Некалькі маладзейшых пенсіянераў яшчэ трымаюць 8 кароў на прывязі (раней гуртналічваў да паўсотні рагуль). А вось сіл наскрозь самім сена ўжо няма ў састарэлых мужыкоў і баб. Калі ім не дапамога калгас з кармамі для жывёлы, то кароў збудуць вяскоўцы і не стане свежага малачка і для сталічных гараджан, упадабаўшых гэты куток.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 10.06.10 | | | | пятн.11.06.10 | | | сб. 12.06.10 | | нядз.13.06.10 | | 14.06.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +8 | +11 | +15 | +15 | +8 | +13 | +17 | +14 | +19 | +14 | +20 | +17 | +25 |
| Ціск, мм | 749 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 746 | 742 | 738 | 741 | 743 | 743 | 744 |
| Вільготнасць, % | 75 | 64 | 51 | 59 | 88 | 62 | 58 | 78 | 62 | 99 | 70 | - | - |
| Вецер м/сек | С-З 3 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 2 | Ю-З 1 | Ю 2 | Ю 3 | Ю-В 6 | Ю 10 | Ю 1 | Ю-В 6 | Ю-В 6 | Ю-В 8 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**На цэнтралізаванае тэсціраванне сёлета ў Беларусі зарэгістравалася болей 111 тысяч абітурыентаў, што на 12 тысяч меней, чым год назад. Тым часам, кіраўніцтва Беларусі не чакала, што Расія з Казахстанам зменіць канфігурацыю Мытнага саюза з трохвугольніка на тандэм без беларусаў. Маскава нават у дзень прыезду ў Мінск расійскага віцэ-прэм'ера І. Шувалава яшчэ на 10 $ павысіла для нас свае экспартныя пошліны на нафту і на нафтапрадукты. Расія можа пайсці і далей, поўнасцю адмовіцца ад прэферэнцый па нафце і газу, увесці еўрапейскія цэны для саюзніка ў 2011 годзе.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Ізраіль.** Краіна пацвердзіла рашучасць прадоўжыць марскую і сухапутную блакаду сектара Газа і нават пасля крывавага інцыдэнту ў моры з караванам турэцкіх караблёў.

**ЗША.** Чарговая спроба інжынераў кампаніі "BP" прадухіліць экалагічную катастрофу ў Мексіканскім заліве зноў праваліліся, штодзень уцечкі нафты там да 25 тыс. барэлей.

**Украіна.** Група нямецкіх і ўкраінскіх вучоных знайшла ў Чорным моры запасы газу метану на 1500 гадоў, пасля распрацовак радовішчы дадуць газ ужо праз некалькі гадоў.

**Гватэмала.** Цэлы тыдзень не дзейнічалі ў краіне школы і дзяржустановы, трапічны шторм "Агата" разбурыў тысячы будынкаў, сотні тысяч людзей былі эвакуіраваны.

**Карэя.** Ваенная разведка пацвердзіла, што затапленне іх ваеннага карабля ўлады КНДР зрабілі з мэтай адцягнуць увагу не жыхароў ад праблем голаду і эканамічных праблем.

**Афганістан.** У сталіцы краіны Кабуле прайшла серыя аблаў у гатэлях і барах, там за распіццё піва "вінаватых" могуць пасадзіць у турму альбо пакараць 60 ударамі бізуна.

**Літва.** Літоўскі Сойм прыняў рэзалюцыю аб прызнанні цэласнасці тэрыторыі Грузіі і запатрабаваў, каб Расія вывела адтуль свае войскі, што не спадабалася Маскве.

**Украіна.** Галоўным прыярытэтам краіны правячая Партыя рэгіёнаў В. Януковіча назвала ўступленне ў Еўрасаюз і адаптацыю свайго заканадаўства да еўрапейскага ва ўсіх сферах.

**Кітай.** Вучоныя краіны выявілі сакрэт трываласці і даўгавечнасці Вялікай сцяны, яе 600 гадоў назад узвялі на аснове раствора для блокаў з варанага рыса і гашанай вапны.

**Аўстрыя.** У штогадовым рэйтынгу другі год запар лепшым горадам у свеце па якасці жыцця стала сталіца краіны – Вена, за ёй Цюрых і Жэнева, Мінск – на 185-м месцы.

**Японія.** Да 2020 года краіна высадзіць на Луне атрад робатаў-даследчыкаў і навуковую базу, у 2015 годзе там стане працаваць калёсны лунаход, рабіць аналізы грунта і здымкі.

**Расія.** На пасяджэнні Свяшчэннага сінода РПЦ у Маскве зноў даверылі кіраваць і далей яе Беларускім экзархатам 75-гадоваму Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту.

**Казахстан.** Па новаму закону з 1 студзеня 2012 года ўсе фільмы пры кінапракаце па тэрыторыі краіны будуць дубліравацца на дзяржаўную казахскую мову.

**Расія.** Расійская і сусветная культура панесла страту пасля смерці выдатнага паэта Андрэя Вазнясенскага, за яго некалі заступіўся ў час ганенняў прэзідэнт ЗША Джон Кенадзі.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч заявіў, што краіна будзе прэтэндаваць на правядзенне зімовай Алімпіяды 2022 года і годна правядзе з Польшчай чэмпіянат Еўропы па футболе.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Гомель.** Падпісаная тут "дарожная карта" Беларусі і Украіны стане асновай далейшага супрацоўніцтва краін, сёлета ўзаемны тавараварот вырас на 44 %, дасягнуў 1,1 млрд. $.

**Мінск.** Міжнародны цэнтр турэмных даследванняў пацвердзіў, што па колькасці асуджаных – 42240 чалавек Беларусь уваходзіць у пяцёрку самых крымінальных краін .

**Мазыр.** Ноччу 16-гадовы падлетак тайна забраў ключы ад мікраaўтобуса бацькоў і моцна пратараніў на ім на хуткасці яшчэ тры легкавыя аўтамабілі на закругленні дарогі.

**Ашмяны.** У жудасным стане ўдзельнікі юбілейнага свята ўбачылі надмагільны помнік класіку айчыннай літаратуры Ф. Багушэвічу ў вёсцы Жупраны, ён пад аховай дзяржавы.

**Дзяржынск.** Чацвёртую сёлета групу фальшываманетчыкаў затрымалі ў краіне, двое яго жыхароў выраблялі падробленыя купюры наміналам 20 тысяч беларускіх рублёў.

**Мінск.** Знакаміты драматург Андрэй Курэйчык заявіў, што беларускі народ – трусліві, а Беларусі патрэбны перамены і дэмакратыя, трэба станавіцца нарэшце нармальнай краінай.

**Гродна.** Раённая пракуратура распачала крымінальную справу супраць дэпутата сельсавета, 38-гадовай загадчыцы дзетсада за крадзеж у дзяцей 20 млн. рублёў.

**Мінск.** Пасля "Еўрабачання-2010" расійскі прадзюсер М. Фадзееў абвінавачвае беларускі бок у падмане і "падробцы" ягонай песні, разгараецца чарговы моцны скандал вакол шоу.

**Клімавічы.** Да міжнароднага фестываля дзіцячай творчасці ў райцэнтры паспелі адкрыць пасля рэканструкцыі коштам 1 млрд. руб. гасцініцу "Дружба" на 17 нумароў з выгодамі.

**Мінск.** У звароце да беларускага народа экс-дэпутат парламента, генерал Валерый Фралоў заявіў, што краіна наспела для перамен з-за паззыцыі Расіі, эканамічнага застою за 16 гадоў.

**Мінск.** На вялікім экране ля Палацу спорту пачалі трансліраваць гульні чэмпіянату свету па футболе, усе матчы фінальнага турніра ў Афрыцы пакажуць 1 тэлеканал і "ЛАД".

**Барысаў.** На працягу лета Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" у горадзе і яго ваколіцах будзе здымаць лірычную меладраму "Дакрананне" рэжысёра Віталя Дудзіна.

**Мінск.** З аўтавакзала "Усходні" пачаўся рух міжнародных аўтобусаў па маршруце Мінск – Калінінград праз Вільнюс, Марыямполе, Гусеў і Чарняхоўск тры разы на тыдзень.

**Рэчыца.** Кампанія "Heinaken" уклала яшчэ 1,5 млн. EUR інвестыцый у свой завод "Рэчыцапіва", тут пачалі выпуск вядомых марак піва "Златы базант" і "Доктар Дызель".

**Мінск.** Ужо 10 вядомых легіянераў падпісалі кантракты з хакейным мінскім "Дынама", перад падапечнымі трэнера М. Сікоры стаіць задача трапіць у паўфінал Кубка Гагарына. Літва катэгарычна супраць яе.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Комплексная праграма развіцця рэгіёнаў і 40 малых гарадоў вобласці на 2007-2010 гады не выконваецца, там шмат праблем і цяжкасцей, як адзначылі ў аблвыканкаме.

**Талачын.** На буйнейшым у краіне элеватары запрацаваў сучасны хуткасны ліфт, здольны хутка дастаўляць рабочых на вытворчыя месцы працы на вышыні 10-павярховага дома.

**Полацк.** Ля кінатэатра "Радзіма" з'явіўся бюст адnаму з заснавальнікаў айчыннага кіно Юрыю Тарычу з выбітымі на ім словамі: "Пакінуў Полацк ён даўно, але жывe яго кіно".

**Расоны.** У два этапы ў раёне прайшоў рэспубліканскі фестываль сельскага турызму "Заборскі фэст" з першым у краіне конным святам і святам рыбака на возеры Белае.

**Віцебск.** У абласным цэнтры правёдзілі ў апошні шлях вядомага беларускага журналіста, актыўнага аўтара апошнім часам незалежнай газеты "Народная Воля" Сяргея Буткевіча.

**Лепель.** Пасля месяца пошукаў міліцыя знайшла і затрымала групу з 4-х мясцовых злодзеяў, якія ноччу абрабавалі на 2 млн. рублёў папулярнае прыватнае кафэ "Аліса".

**Наваполацк.** Пераможцай IV гарадскога конкурса прыгажосці стала 17-гадовая навучэнка палітэхнічнага каледжа Кацярына Сафрановіч, ёй уручылі турпуцёўку на тур у Егіпет.

**Віцебск.** Падчас "Славянскага базара" на Алеі зорак вырашылі закласці пліту музыканта Уладзіміра Мулявіна і стваранага ім легендарнага беларускага ансамбля "Песняры".

**Чашнікі.** Стары тэлевізар "Рубін" стаў прычынай пажару ў доме 95-гадовай пенсіянеркі з райцэнтра, старую пажарныя выратавалі, але матэрыяльны ўрон перавысіў 1 млн. рублёў.

**Віцебск.** Адзін з выпускнікоў СШ № 30 падчас святкавання апошняга званка ў кампаніі на падпітку загінуў, купаючыся вечарам на штучным вадаёме ў прыгарадным раёне.

**Докшыцы.** Разьбяр Іван Плыгаўка і майстар саломапляцення з райцэнтра Марына Гушчо сталі ў Мінску прызёрамі рэспубліканскага фестываля рамёстваў "Веснавы букет".

**Полацк.** Галоўную славутасць горада – Сафійскі сабор закрылі на рэканструкцыю, яна будзе ісці 3 гады за сродкі рэспубліканскага бюджэта, але восенню храм адчыняць.

**Дуброўна.** Спевакі і музыканты з Беларусі і з яшчэ 6 краін свету ўдзельнічалі ў XVII міжнародным фестывалі песні і музыкі "Дняпроўскія галасы", быў феерверк і кірмаш.

**Верхнядзвінск.** Жыхарка райцэнтра, 19-гадовая Дар'я Ахламёнак прывезла дамоў галоўны прыз V конкурса маладых эстрадных выканаўцаў "Еўропа плюс Полацк".

**Лепель.** У летні перыяд у дзіцячым санаторыі "Жамчужына" стаў вазіць па мясцоваму вялікаму водасховішчу адпачываючых дзяцей цеплаход, працягласць маршрута – 44 км.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**370 $** такая ў Беларусі, па дадзеных статыстыкі, была ў пачатку лета намінальная, налічаная (без падаткаў) сярэднемесячная зарплата па краіне. У параўнанні з адпаведным перыядам 2009 года даходы беларусаў павяліччыліся ўсяго на 5,9 %. Між тым, кіраўніцтва краіны працягвае настойваць на павышэнні гэтай сумы заробкаў суайчыннікаў, эквівалентнай даўно агучаным 500 $. Аднак няхітрыя падлікі паказваюць, што каб дабіцца жаданага рубяжа да прэзідэнцкіх выбараў, неабходна было сёлета сярэднюю зарплату павялічыць істотна, не на лічаныя працэнты, а ў 1,35 разы.

У адносінах бюджэтнай сферы, праўда, агучваюцца іншыя сумы, у сярэднім толькі 400-405 USD. І калі пастарацца ім адшукаць патрэбную суму, зарабіўшы скажам на продажы калійных угнаенняў на экспарт, то яшчэ цяжэй будзе зрабіць гэта многім суб'ектам гаспадарання, пакольку эканамічная сітуацыя для іх пасля крызісу не надта палепшылася. Сталі расці сёлета аб'ёмы беларускага экспарту, у 1-м квартале яны дасягнулі 6,2 млрд. USD. Але адначасова па дрэннай завядзёнцы павялічваецца адмоўнае сальда знешняга гандлю краіны.

Кіраўнікі Віцебскай і Магілёўскай абласцей ужо шчыра прызналіся, што сёлета не атрымаецца зрабіць зарплату ў суме жаданых 500 у. а. На месцы спушчана, праўда, патрабаванне максімальна прыблізіцца да гэтай сумы, спіслаўшы на еўрапейскіх мерках пры сусветным і нават вышэй узроўні цэн у нас. Ды што такое цяпер 500 долараў, якія атрымоўваюць штомесяц, для параўнання, многія польскія пенсіянеры. У суседняй Расіі хутка пажылыя людзі будуць атрымоўваць пенсію ў памеры каля 300 $. За лічаныя тыдні да запуска Мытнага саюза трох краін было невядома, ці падпіша Беларусь Мытны кодэкс і ці далучыцца да працы ў фармаце адзінай мытнай тэрыторыі.

Увогуле, развіццё падзей зараз цікавае, толькі вось з перавагай не надта аптымістычных тэндэнцый. Да восені гэтага года адкладзены перамовы з МВФ аб новай праграме дапамогі stand-by, а фонд даволі крытычна адносіцца да неабгрунтаванага рэзкага павышэння зарплат па-папулісцку без адпаведнага эканамічнага росту. Каля 200 млн. долараў дасягнуў доўг Беларусі перад "Газпрамам". Цана на газ для беларусаў у 2-м квартале 2010 года хоць і самая нізкая ў СНД – каля 185 USD/ тыс. кубаметраў, але мы ўпарта працягваем плаціць за яго па леташняй цане – 150 долараў.

Беларускія ўлады загаварылі пра неверагоднае раней: магчымасць аддаць Расіі кантроль над сваёй газатранспартнай сістэмай у абмен на льготныя цэны на энерганосьбіты. Але Масква цяпер гатова для абмеркавання гэтых прапаноў А. Лукашэнкі толькі пасля пагашэння намі ўзнікшых запазычанасцей. У Крамля на руках шмат козыраў і самае страшнае для нас – намер перайсці з 1 студзеня 2011 года на еўрапейскія цэны для Беларусі на газ і на нафту. Расійскі лідэр Д. Мядзведзеў у Кіеве прама сказаў, што прэферэнцыі будуць толькі рэальным партнёрам, а не тым, хто такія намеры толькі агучвае.

Нядаўні троxдзённы візіт кіраўніка Беларусі ў Азербайджан так і не закончыўся падпісаннем жаданага пагаднення аб пастаўках азербайджанскай нафты. Каб задобрыць Маскву, беларусы ратыфікавалі ў парламенце пагадненне аб Калектыўных сілах аператыўнага рэагавання арганізацыі АДКБ, нейкага сілавога аналага супраць НАТО. Наш кантынгент войскаў складзе ў іх больш 2 тысяч ваеннаслужачых, якіх могуць накіраваць у самыя "гарачыя" кропкі на постсавецкай прасторы. Але ў якой ступені ацэніць гэты жэст добрых намераў беларусаў Масква?

Пакуль там будуць думаць, у чэрвені з Венесуэлы павінны прыплыць яшчэ 3 танкеры з нафтай у аб'ёме каля 240 тыс. тон. Цікава, што дагэтуль ніхто афіцыйна не называе цану імпартуемай з другога канца свету стратэгічнай сыравіны. Тым часам, не стартавала яшчэ важная выбарчая кампанія, а кандыдатамі ў прэзідэнты ўжо назвалі сябе больш дзесяці чалавек. Вышэйшы дзяржаўны пост у Беларусі многае значыць, але адказнасць за вынікі праўлення ў дадзенай сітуацыі толькі ўзрастае. У тэхналагічным плане і па ўзроўню жыцця мы сур'ёзна адстаём ад многіх, што і паказваюць цяперашнія ўзроўні заробкаў.

# Маладзечна «адпачывае», а пра Глыбокае і казаць няма чаго



■ **Ул. Скрабатун**

У Полацку я не быў гадоў дзесяць. Менавіта з таго часу, як не спадабаліся кошты на выдрук газеты ў наваполацкай друкарні. Як сталася, у Маладзечне, у два з паловай разы – танней! І мы туды паехалі. Інакш, з гледзішча сённяшняга дня, мы мусілі б цяпер прадаваць нашую газету не меней як за тры тысячы рублёў. Вось як! Лепш заплаціць на дзесяць тысяч рублёў больш за бензін да Маладзечна, чым губляць толькі на друку ў кожным нумары лішніх паўтара мільёна (па сённяшніх коштах).

Полацк усе гэтыя дзесяць гадоў заставаўся ў маёй памяці занядбаным, “абшарпаным”, горадам у духу савецкіх часоў. Пакінуў ён на мяне, здавалася, назаўсёды скрушнае ўражанне. Не хацелася ехаць у гэты горад, хоць некалькі разоў потым, па грамадскіх справах, запрашалі мяне тамтэйшыя “дзеячы”. Маладзечна ж падалося тады “Горадам Сонца”. Прыгожы, еўрапейскага кшталту, горад.

У мінулую суботу добры мой знаёмы і аматар вандровак Кастусь Бахір, тэлефануе: “Валодзя, няма ў цябе жадання паехаць у Полацк на “Фэст сярэднявечнай культуры “Рубон-2010”? Там, як і ў Навагрудку, рыцарскі турнір будзе!”

– Ну, паехалі! – кажу. Гадоў дзесяць там не быў. Трэба ж паглядзець, як змяніўся горад за гэты час! Казалі, што ў Полацк вялікія “бабкі” ўклалі…

Прыехалі ў цэнтр горада, там, дзе цяпер “новы Цэнтр Еўропы” знаходзіцца. І я … не пазнаў Полацк! Хоць раней, у гэтым месцы, быў не аднойчы. Нейкая другая Вільня! Еўропа! Усе старадаўнія домікі, “з іголачкі” адрэстаўраваныя, пакрытыя металадахоўкай. Хто б мог падумаць! Маладзечна «адпачывае»! Хоць і па ранейшаму я ў захапленні ад нашага колішняга абласнога цэнтра. (У 1950-ыя гг Глыбокае належала да Маладзечанскай вобласці). Пра Глыбокае я – маўчу. Няма чаго паставіць. Ёсць пра што гаварыць, а ці ёсць каму слухаць!

З такімі думкамі я накіраваўся да Сафійскага сабора, дзе і мусіў адбывацца “Фэст сярэднявечнай культуры “Рубон-2010”.

«Чаму ў фэста такая дзіўная назва?» – спытаеце Вы. Насамрэч, яна даволі звычайная, асабліва для беларускіх гісторыкаў. «Рубон» – гэта старажытная назва Заходняй Дзвіны, а таксама баявы заклік полацкіх ваяроў. Рубон!!! Гэта накшталт цяперашняга «Ура!!!»

Паводле звестак БелаПАНа, якія іхні карэспандэнт здабыў у аддзеле культуры Полацкага гарвыканкама, на фэст прыехалі прадстаўнікі прыкладна 30 клубаў гістарычнай рэканструкцыі з Віцебска, Полацка, Оршы, Мінска, Баранавічаў, Гомеля, Ліды, Гродна і іншых гарадоў Беларусі. Як і ў ранейшыя гады, сярэднявечны горад размясціўся побач са сценамі Сафійскага сабора. Але сёлета ўваход на фэставую тэрыторыю ўпершыню стаў платным: квіток для дарослых каштаваў 4 тысячы рублёў. Дзеці змаглі ўбачыць фэставыя дзействы бясплатна.

Праграма першага дня складалася з турніру «Ратна кола», конкурсу вулічных тэатраў, змаганняў лучнікаў і вершнікаў, інтэрактыўных гульняў з гледачамі, канцэрту сярэднявечнай музыкі і пластычнага спектакля «Выпрабаванне агнем», у якім тэатральнае дзейства суправаджалася фаер-шоў.



**Ахвотныя маглі пастраляць з лукаў і арбалетаў.** *Фота Ул. Скрабатуна*

13 чэрвеня ў рамках фэсту адбыўся традыцыйны штурм сярэднявечнага замка і канцэрт вядомага калектыва «Стары Ольса». У фэсце таксама бралі ўдзел групы «Яварына», «Гальярда» і Cornus Copia. Сваё майстэрства гледачам паказалі рамеснікі - кавалі, ганчары, ткачы, ювеліры, вырабы якіх можна было набыць на кірмашы.

Цудоўнае, прыгожае свята! Захапляльныя відовішчы!

Ці будзе ў Глыбокім калі-небудзь падобнае свята на якое прыедзе ўся Беларусь? Пакажа час.




**Полацк. Адрэстаўраваныя дамы на Замкавым праездзе.** *Фота Ул. Скрабатуна*



**Самае захапляльнае відовішча – двубоі рыцараў.** *Фота Ул. Скрабатуна*

# Мосар запрашае на свята!




З 24 па 27 чэрвеня 2010 года ў касцёле Святой Анны ў вёсцы Мосар будзе праходзіць урачыстасць Нараджэння Святога Яна Хрысціцеля. Сардэчна запрашаю ўсіх на гэтае вялікае свята, каб разважаючы аб таямніцы Божай Любові, беручы ўдзел у Святой Імшы, адарадыі Найсвяцейшага Сакрамэнту самім сустрэцца з Богам, а таксама паказаць прыклад іншым, як трэба святкаваць.

Урачыстасць будзе ладзіцца ў наступным парадку:

**24 чэрвеня (чацвер)** – Святая Імша будзе адпраўляцца ў касцёле ў 10.00, 12.00 і 18.00 гадзін.

**26 чэрвеня (субота)** – Святая Імша а 19.00 гадзіне ўвечары, у 20.00 - пачатак свята «Купалле».

**27 чэрвеня (нядзеля)** – Святая Імша ў касцёле ў 8.00,10.00 і ў 13.00 гадзін.

У суботу, 26 чэрвеня, а 18-ай гадзіне і ў нядзелю, 27 чэрвеня, а 12-ай гадзіне запланавана лекцыя ўрача-псіхатэрапеўта Анатоля Фінскага з г. Ліды (Гродненская вобласць) на тэму алкагольнай залежнасці і спосабу барацьбы з ёй.

Мосар чакае гасцей і запрашае жыхароў горада і раёна да ўдзелу ў святкаваннях.

*Ксёндз Уладзімір Шымковіч, амініістратар парафіі Святой Анны ў вёсцы Мосар.*



# Гнаявыя сцёкі забруджваюць беларускія вадасховішчы

Больш двух дзясяткаў вадаёмаў знаходзяцца пад пагрозай забруджвання гнаявымі сцёкамі гаспадарак Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці.

У Віцебскай вобласці павялічваецца колькасць сельгаспрадпрыемстваў, якія парушаюць прыродаахоўнае заканадаўства, - заявіў старэйшы памочнік пракурора Віцебскай вобласці па наглядзе за выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства Валянціна Хадасевіч.

Так, у другім квартале 2009 года пракуратурай Віцебскай вобласці была праведзена праверка выканання ў рэгіёне заканадаўства пра забароны і абмежаваннях гаспадарчай дзейнасці ў вадаахоўных зонах і прыбярэжных палосах водных аб'ектаў. Шматлікія парушэнні тады былі выяўлены ў рабоце 63 жывёлагадоўчых фермаў.

У мэтах кантролю за іх ухіленнем супрацоўнікі пракуратуры яшчэ раз праверылі дзейнасць сельгаспрадпрыемстваў. Вынікі апошняга знаёмства са становішчам спраў сталі яшчэ больш несуцяшальнымі: факты безгаспадарлівасці, якая стварае рэальную пагрозу прыродным рэсурсам, былі выяўлены на 134 аб'ектах, размешчаных у Талачынскім, Лепельскім, Віцебскім, Чашніцкім, Докшыцкім, Полацкім, Лёзненскім, Мёрскім, Бешанковіцкім, Сенненскім, Аршанскім, Браслаўскім, Гарадоцкім, Верхнядзвінскім, Пастаўскім і Дубровенскім раёнах. Пры гэтым у апошнім рэгіёне, напрыклад, з-за грэблівага стаўлення кіраўнікоў гаспадарак да пытання выкання прыродаахоўнага заканадаўства з'явілася сур'ёзная пагроза забруджвання гнаявымі сцёкамі 21 воднага аб'екта, у тым ліку 14 рэк, падкрэсліла Валянціна Хадасевіч.

Па выніках праверкі пракуратурай Віцебскай вобласці падрыхтавана 78 актаў пракурорскага рэагавання, у тым ліку 17 прастаўленняў і 61 прадпісанне. Кантралюючым прыродаахоўным органам накіравана 84 даручэнні аб падрыхтоўцы спраў пра адміністрацыйныя правапарушэнні, паведамляе БелТА.



11 і 12 чэрвеня ў Глыбокім прайшлі вечарыны выпускнікоў. Ужо сталася добрай традыцыяй, што моладзь перад святкаваннем у школе наведвае касцёл, каб прасіць Добрага Бога аб благаслаўленні. Цудоўна тое, што ў маладых сэрцах квітнее вера і давер да Бога. Многія з іх распачнуць хутка самастойнае жыццё, паступяць у ВНУ. На новы шлях лепш выбірацца з Божым заступніцтвам.

Касцёл Св. Тройцы на працягу гэтых двух дзён наведалі вучні 1-ай, 2-ой і 3-яй сярэдняй школы г. Глыбокае, а таксама навучэнцы глыбоцкай гімназіі і вучні са школы ў в. Карабы.

На св. Імшах за выпускнікоў таксама прысутнічалі настаўнікі і бацькі выхаванцаў. Падзяка за дар жыцця і за навуку ў школе злілася з просьбай аб Божае благаслаўленне на далейшым жыццёвым шляху. Святары ў казаннях заахвочвалі моладзь трымацца каталіцкай веры і традыцыі, нягледзячы на новае жыццёвае асяроддзе і зваблівасць свету. У сваю чаргу маладыя католікі абяцалі быць вернымі Хрысту і Яго Касцёлу.

*Кс. Віктар Місевіч*

# Беларусы пабачаць камету з зялёным хвастом



Да Зямлі набліжаецца вялізная камета, якую праз некалькі дзён можна будзе разгледзець на небе няўзброеным вокам.

Пра гэта паведамілі ў Рэспубліканскім Гідраметцэнтры. 15 чэрвеня гігант наблізіцца да Зямлі на адлегласць каля 170 млн. кіламетраў.

Можна будзе выразна ўбачыць яркую кропку на небасхіле, а калі зірнуць у бінокль, то праявіцца яе зялёны хвост. У другой палове чэрвеня Камета Макнота будзе добра бачная ў паўночным паўшар'і на ўсходзе перад узыходам сонца, а ў пачатку ліпеня – перад заходам, распавялі сіноптыкі.

Камета Макнота (McNaught) названая ў гонар аўстралійскага астранома, які адкрыў яе ў мінулым годзе. Галава нябеснага цела па памеры перавышае дыяметр Юпітэра, а даўжыня хваста дасягнула ўжо аднаго мільёна кіламетраў.

# Асаблівасці арганізацыі сёлетніх урачыстасцяў у Будславе

1–2 ліпеня падчас галоўных урачыстасцяў у Будславе, як і ў мінулым годзе, па ініцыятыве органаў МУС з мэтай гарантавання максімальнай бяспекі ўдзельнікаў мерапрыемстваў вакол касцёла будуць усталяваны турнікеты з металашукальнікамі.

Забараняецца мець пры сабе халодную, агнястрэльную і газавую зброю, выбуховыя рэчывы, рэжучыя і колючыя прадметы, шкляныя бутэлькі і іншыя рэчы, якія могуць несці пагрозу для жыцця і здароўя людзей.

Перад алтаром будзе абсталяваны сектар для інвалідаў. Палаткавы гарадок для пілігрымаў будзе арганізаваны на тэрыторыі былога аэрадрома, каля якога будзе таксама размяшчацца стаянка для аўтобусаў. Праезд на стаянку плануецца арганізаваць толькі з боку мястэчак Крывічы і Даўгінава. Месцы паркоўкі аўтобусаў будуць абазначаны.

Праезд у цэнтр Будслава для легкавых аўтамабіляў будзе перакрыты 1 ліпеня з 12.00.

Стаянка для легкавых аўтамабіляў духавенства прадугледжана за будынкам кляштара. Праезд на стаянку магчымы толькі пры наяўнасці пропуску вызначанага ўзору.

# Ваеннаслужачых тэрміновай службы на час прызыву вызваляць ад выплаты жыллёвых крэдытаў

**Ваеннаслужачых тэрміновай службы на час прызыву вызваляць ад выплаты жыллёвых крэдытаў. Такія папраўкі ў закон аб воінскім абавязку і воінскай службе прынялі ў другім чытанні на пасяджэнні 14 чэрвеня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.**

«Па ініцыятыве камісіі падчас дапрацоўкі дакумента да другога чытання знайшло вырашэнне вельмі адчувальнае пытанне адтэрміноўкі выплаты крэдытаў на будаўніцтва жылля ваеннаслужачымі тэрміновай службы на час прызыву», - паведаміў намеснік старшыні камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Ігнацій Місурагін. Законапраект таксама адмяняе адтэрміноўку ад прызыву на тэрміновую воінскую службу для завочнікаў.

Нагадаем, прадстаўляючы 18 снежня 2009 года законапраект у першым чытанні, першы намеснік міністра абароны Пётр Ціханоўскі адзначаў, што неабходнасць унясення папраўак звязаная са штогадовым скарачэннем колькасці прызыўнікоў. Паводле яго слоў, апошнім часам колькасць грамадзян, якім споўнілася 18 гадоў, штогод скарачаецца на 5-7%. «Калі ў 2007 годзе годнымі да воінскай службы прызнавалася 58,4% маладых людзей, то ў 2008 49%, а падчас апошняга прызыву 40,5%. У найбліжэйшыя два тры гады сітуацыя не зменіцца» - сказаў намеснік міністра.



Ціханоўскі тады звярнуў увагу, што ў Беларусі з усіх краін постсавецкай прасторы самая вялікая колькасць падстаў для адтэрміновак. «У нас 28 падстаў для адтэрміновак, якія тычацца 49 катэгорый грамадзян. У Расіі 21 падстава, ва Украіне 17. Акрамя таго, маюць адтэрміноўкі ад прызыву для атрымання адукацыі 164 тыс. грамадзян ад 18 да 26 гадоў», - паведаміў намеснік міністра.

Прыняты дэпутатамі законапраект таксама выкладае ў новай рэдакцыі парадак ажыццяўлення дапрызыўнай, фізічнай і ваеннай падрыхтоўкі непаўналетніх грамадзян, а таксама ўдакладняе падставы скасавання кантракта з ваеннаслужачымі, якія праходзяць ваенную службу па кантракце.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

# У Віцебску абакралі царкоўны кіёск

**Сяржук Серабро**

11 чэрвеня ў Віцебску двое маладых людзей 17 і 19 гадоў прыкладна ў 13:45 з царкоўнага кіёска, прыналежнага храму Святога Благавернага Аляксандра Неўскага, выкралі вітрыну са срэбнымі ўпрыгожваннямі коштам 1 184 000 рублёў.

Падазраваныя ў здзяйсненні крадзяжу былі затрыманы ў 21:30 нарадам Чыгуначнага аддзела аховы сумесна з супрацоўнікамі Чыгуначнага РАУС поруч інтэрната №2 у мястэчку Лужасна. Узбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.206 КК Рэспублікі Беларусь, паведамляе прэс-цэнтр дэпартамента аховы МУС.

# Аднак браканьеры самі патрапілі ў сеткі супрацоўнікаў інспекцыі

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Лета цалкам уступіла ў свае правы, самая спрыяльная пара для рыбаловаў-аматараў, знятыя амаль усе забароны на лоўлю рыбы, выкарыстанне плавальных сродкаў, колькасць вуд і кручкоў, і вось ужо сотні рыбаловаў плаваюць на азёрах і рэках у надзеі злавіць добрых шчупака, ляшча ці ліна.**

За час вясновай забароны і абмежаванняў (красавік-травень) супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету перарвана 84 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, па 7 парушэннях узбуджаны крымінальныя справы, так сумы прычыненай шкоды прыродзе сталіся значныя, у асобных выпадках дасягалі 10 млн. рублёў. За гэты перыяд супрацоўнікамі інспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 6 адзінак агнястрэльнай зброі, 2 з якіх былі не зарэгістраваны, па 1 факту незаконнага захоўвання агнястрэльнай зброі ўзбуджаная крымінальная справа. У парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства канфіскавана 45 браканьерскіх сетак, даўжынёю больш 2 км., 99 кг. незаконна здабытай рыбы, 22 мярожы, броднікаў, павукоў і іншых браканьерскіх прылад лоўлі.

Велізарную дапамогу ў працы інспекцыі аказвае насельніцтва, за перыяд нерасту на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі паступіла 23 паведамленні пра розныя парушэнні, усе яны праведзены, а 35 парушальнікаў прыцягнуты да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці.

Нягледзячы на ўсё гэта багацце для сапраўдных рыбаловаў, усё яшчэ не перавяліся аматары рыбалоўнага экстрыму.

29 траўня 2010 года каля 19 гадзін супрацоўнікам міжраённай інспекцыі грамадзяне паведамілі пра тое, што на сажалцы «Волча» Докшыцкага раёна ажыццяўляецца незаконная здабыча рыбы. Рэйдавая група неадкладна выбыла на згаданую сажалку і затрымала 2 жыхароў Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці грамадзян Т. і Ж. , якія знаходзячыся ў гасцях у свайго знаёмага, у Докшыцкім раёне, вырашылі палавіць рыбы на сажалцы «Волча» пры дапамозе бродніка. Броднік зацягнуць паспелі, але з вады парушальнікаў і броднік выцягнулі супрацоўнікі Глыбоцкай міжраінспекцыі. Адзін з затрыманых назваў пашпартныя дадзеныя свайго знаёмага, тым самым, спрабуючы сысці ад адказнасці, зараз чакае рашэння суда не толькі за незаконную здабычу рыбы, але і за неападпарадкаванне законным патрабаванням работнікаў інспекцыі, штраф да 50 базавых велічынь.

Так, 9 чэрвеня 2010 года каля 20 гадзін на рацэ Заражанка Пастаўскага раёна трое мясцовых жыхароў захацелі палавіць рыбку пры дапамозе бродніка, але не паспелі прыгатаваць сваю браканьерскую снасць, як самі патрапілі ў сеткі супрацоўнікаў інспекцыі, зараз чакаюць рашэння суда.

І ўсё ж хочацца асоба адзначыць, што простыя грамадзяне ў асноўнай сваёй масе законапаслухмяныя і гатовыя заўсёды аказаць дапамогу ў спыненні фактаў браканьерства, дзякуючы ім, шматлікія са злосных браканьераў панеслі заслужанае пакаранне. Велізарны дзякуй усім за аказваемую дапамогу і падтрымку, толькі разам мы зможам паставіць на месца браканьераў, якія зарваліся. Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны «гарачай лініі»: 8-02156- 2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02 ці 890-55-28, 249-45-49.


Такія шчупакі водзяцца ў глыбоцкіх азёрах!
Фота Алеся Мядзельца

# Прафілактыка электратраўматызму і электрабяспека

■ А.С.Крывёнак,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага раёна.*

**Электрычная энергія трывала ўвайшла ў наша жыццё, знайшла шырокае ўжыванне, як на вытворчасці, так і ў побыце. Мы штодня карыстаемся рознымі электраінструментамі, перасоўваемся з дапамогай электратранспарту. Усё гэта стала ўжо настолькі звыклым, што мы парой забываем некаторыя простыя правілы карыстання электрычнымі прыборамі, у выніку чаго нярэдкія выпадкі электратраўматызму.**

Каб зразумець небяспеку паражэння электрычным токам, неабходна ўяўленне пра тое, як ён дзейнічае на арганізм чалавека, якія фактары ўплываюць на зыход электратраўмы.

Адной з асаблівасцяў электрычнага току з'яўляецца тое, што ён нябачны, не мае ні колеру, ні паху, таму выявіць яго без адмысловых прыбораў чалавек не можа. Электрычны ток паражае раптам, калі чалавек аказваецца «ўключаным» у ланцуг яго праходжання. Асабліва небяспечны электрычны ток для дзяцей і падлеткаў, бо яны па сваіх фізічных дадзеных больш адчувальныя да яго ўздзеяння.

У пазбяганне няшчасных выпадкаў неабходна памятаць і выконваць правілы электрабяспекі. Вось асноўныя з іх:

- не набліжацца да абарваных, якія ляжаць на зямлі, плоце ці іншых будынках праводоў ліній электраперадачы на адлегласць меней 8-10 м;
- не заходзіць за агароджу трансфарматарных падстанцый, у памяшканні падстанцый і на будаўнічыя пляцоўкі, дзе могуць ужывацца часовыя электраправодкі;
- не карыстацца ўключанымі ў сетку пераноснымі лямпамі і бытавымі электрапрыборамі без прылад ахоўнага адключэння ў садах, агародах, сырых памяшканнях і памяшканнях з токаправоднымі падлогамі (бетоннымі, землянымі і г.д.);
- адключаць электранагравальныя прыборы – чайнікі, электраскавародкі і т.п. ад электрычнай сеткі пры запаўненні іх вадой непасрэдна ад вадаправоднай сістэмы;
- не рамантаваць самастойна няспраўную электраправодку і электрапрыборы, а паведаміць пра заўважаныя няспраўнасці ў адпаведныя службы;
- не карыстацца няспраўнымі штэпсельнымі разеткамі, выключальнікамі і шнурамі для ўключэння электраабсталявання і электрапрыбораў;
- не чысціць ад забруджвання і пылу асвятляльную арматуру і электралямпы люстраў і свяцільнікаў пры ўключаным выключальніку, а таксама мокрымі ці вільготнымі анучамі;
- пры карыстанні пераноснымі свяцільнікамі, прыборамі, пераносным электраінструментам нельга дакранацца батарэй ацяплення, вадаправодных труб і іншых заземленых металічных канструкцый, змешчаных у кватэры;
- не карыстацца электрапрыборамі з парушанай ізаляцыяй, электраплітамі з адкрытай спіраллю, а таксама самаробнымі электрапечкамі і электранагравальнікамі;
- пры выяўленні абарванага провада паветранай лініі электраперадачы ці адкрытых дзвярэй трансфарматарнай падстанцыі неадкладна паведамляць пра гэта ў раённыя электрычныя сеткі.

Вывучайце і строга выконвайце правілы электрабяспекі, патрабуйце іх выканання ад вашых таварышаў, родных і блізкіх.

Памятайце, што грэбаванне гэтымі правіламі можа прывесці да няшчаснага выпадку.

# У Беларусі выдадзена кніга, прысвечаная Ельні – аднаму з найбуйнейшых у Еўропе верхавых балот

**У Беларусі выдадзена кніга, прысвечаная Ельні – аднаму з найбуйнейшых у Еўропе верхавых балот.**

У ліку аўтараў выдання «Флора і расліннасць ландшафтнага заказніка «Ельня» намеснік дырэктара Інстытута эксперыментальнай батанікі імя Купрэвіча Нацыянальнай акадэміі навук Дзмітрый Грумо, супрацоўнік гэтага інстытута Наталля Зелянкевіч, дацэнт кафедры батанікі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Алег Созінаў і інш.

Як паведаміў БелаПАН Алег Созінаў, гэта першая кніга, якая змяшчае падрабязны агляд прыроднага комплексу беларускага заказніка. Дагэтуль падобныя кнігі выдаваліся толькі па нацыянальных парках і запаведніках. У аснову выдання пакладзены даныя, атрыманыя беларускімі вучонымі падчас амаль дзесяцігадовага даследавання Ельні і прылеглых да балота тэрыторый. Прадстаўлена падрабязная інфармацыя пра флору і фауну заказніка, яго кліматычныя і гідрагеалагічныя асаблівасці, стратыграфію тарфяных залежаў.

Паводле слоў Созінава, выданне таксама унікальнае картаграфічнымі матэрыяламі, якія наглядна дэманструюць стан біярэсурсаў Ельні. Некаторыя з відаў карт у Беларусі створаны ўпершыню - гэта карты па флоры, рэкрэацыйных нагрузках, прагназаванні развіцця расліннасці.

Як лічаць аўтары, маляўнічасць і даступнасць мовы кнігі робяць яе цікавай не толькі для вучоных, супрацоўнікаў прыродаахоўных устаноў, але і для самага шырокага кола чытачоў, неабыякавых да прыроды.

Созінаў паведаміў, што плануецца выданне падобных кніг па ўсіх найбуйнейшых беларускіх заказніках, якія маюць на сваёй тэрыторыі балота, а ў перспектыве мяркуецца выпусціць агульную кнігу пад назвай «Сфагнавыя балоты Беларусі».

Балота Ельня размешчана на тэрыторыі Мёрскага і Шаркаўшчынскага раёнаў Віцебскай вобласці ў межах Полацкай нізіны. Яго плошча складае каля 232 кв. км. Балотны комплекс Ельня з'яўляецца гідралагічным заказнікам і рамсарскім угоддзем. На тэрыторыі заказніка расце 15 відаў раслін, яго насяляюць 24 віды жывёл, уключаных у Чырвоную кнігу Беларусі, у тым ліку 18 відаў рэдкіх птушак.

У другой палове XX стагоддзя экасістэма балота была моцна парушана сеткай меліярацыйных каналаў, яго тэрыторыя стала пажаранебяспечнай. Апошнія гады адміністрацыя заказніка «Ельня» і грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» праводзяць работы па аптымізацыі гідралагічнага рэжыму балота.

***А. Янушэўская, БелаПАН.***

**Розгалас**

## «Жыхара Глыбокага будуць судзіць за здзекі над гракам»

У нашай газеце, у нумары 22 (530) ад 3 чэрвеня 2010 года, быў апублікаваны матэрыял «Госці не ўлічылі, што беспакарана лавіць рыбу сеткамі ў Глыбоцкім раёне сабе даражэй», аўтарам якога ёсць А.В. Протас, начальнік Глыбоцкай міжраінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Адзін з абзацаў згаданага матэрыялу паведамляе аб вызваленні інспектарамі з палону птушкі, якую адзін з жыхароў Глыбокага прывязаў вяроўкай да шаста і выкарыстоўваў у якасці жывога пудзіла.

Хтосьці з нашых чытачоў выставіў гэтую інфармацыю ў Інтэрнет. Інфармацыя атрымала розгалас на ўсю краіну. Спадару Протасу пачалі тэлефанаваць: то са «Звязды», то з БелТА, то з «Комсомольской правды»... У апошняй, за № 109, і выйшаў матэрыял «Жыхара Глыбокага будуць судзіць за здзекі над гракам».

Да сёння яшчэ нікога на Беларусі не пакаралі за здзекі над жывёламі. А пры такім розгаласе? Гэта можа стацца першым прэцэдэнтам у краіне.

# Тэлетыдзень "Вольнага Глыбокага"

21 – 27 чэрвеня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 21 чэрвеня

### Першы нацыянальны

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00,23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** Здоровье.
**10.05** Женское ток-шоу «Во что играют наши дети».
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.10 «Американская дочь»** (Россия).
**14.05** «Культурныелюди».
**14.30** «Великой Победы Солдаты. Виктор Ветошкин».
**15.15, 18.15** Новости
**15.30** «Я слышал, как земля стонала...»
**16.05 «Общая терапия»**
**18.25** «Прости меня».
**18.55, 00.45** «Зона Х».
**19.00** Арена.
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Ответный ход».
**20.30** Панорама.
**21.10** «Ворота к Победе».
**21.25** Футбол. Чемпионат мира. Испания-Гондурас. Прямая трансляция.
**23.25 «Части тела-5»**
**00.15** «Эпоха».

### АНТ

**06.00,09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Города-герои. Москва».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Микки Маус. Домашний клуб».
**11.30 «Моя жена меня приворожила».**
**12.00** «Малахов +».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять.Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.30** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Папа на все руки».**
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10** «Музыкальные вечера в Мирском замке».
**23.45** Наши новости.
**00.00** Новости спорта.
**00.05** «Преступлениявека».
**00.35 «Говорящая с призраками».**
**01.25** Наши новости.
**01.40-01.50** Новости спорта.

### Тэлеканал "ЛАД"

**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»**



**08.25** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35 «Любовь как любовь»**
**10.45** «Пра мастацтва».
**11.15** Школа ремонта.
**12.15 «Полюби меня снова»**
**13.15 «Любовь как любовь»**
**14.25** Футбол. Чемпионат мира. Португалия-КНДР. Прямая трансляция.
**16.25** Женская лига.
**16.55** Футбол. Чемпионат мира. Чили-Швейцария. Прямая трансляция.
**18.55 «Анатомия Грэй-4»**
**19.55** Белорусское времечко.
**20.55** Калыханка.
**21.15 «Универ»** (Россия).
**21.50 «Сопротивление»**
**23.30** Чемпионат мира

### Тэлеканал "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Дальние родственники».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кинопонедельник»: **«ТРЕВОЖНЫЙ ОТПУСКАДВОКАТА ЛАРИНОЙ».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»:**«P.S. Я ЛЮБЛЮ ТЕБЯ».**



### БЕЛСАТ tv

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**07:40** Кулінарныя падарожжы Р. Макловіча
**08:05** Басанож па свеце
**08:30** «Рэвалюцыя ў эфіры», дак. фільм, рэж. Ізабэль Блёхль (Isabell Bloechl), Томас Штэлер (Thomas Staehler), 2005 г., Нямеччына
**09:30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма)
**09:35 «Арол: крымінальная сага»**,: 23 серыя
**10:30 «Загадкі Мэрдака»**, дэтэктыўны серыял: 11 серыя
**11:15 «Боская ўмяшанне»**

